## 11. Іду пешкі

Ноч засьпела ў дарозе мяне.
Тарахценьне калёс. Галасы ў цемнаце.
Папрасіць, каб падвезьлі, ці што?

## 12. * * *

Я шукаў цябе, мілая,
Ўсё жыцьцё.
Я думаў,
Што ты спазьнілася,
І рады быў,
Што дачакаўся.
І толькі потым усьвядоміў,
Што безнадзейна
Спазьніўся я.

*1982 г.*

## 13. Цёмны хутар наводшыбе

Кіслая цьвіль і гугнявы гарбач,
І жонка прыгожая і маладая.
Драпежны позірк.

## 14. Цьвіце гарох

Якое дзіва:
Мільён ліловых матылькоў!
Гарохавае поле.

## 15. Гукі дажджу

Капае дождж у вакно
Цэлую ноч.
Так прыемна заснуць не дае.

## 16. Ідуць дні

Распускаюцца вішні,
Як быццам учора.
А ў сябра белыя валасы.

## 17. Памёр чалавек

Плач вылічальны. Адчынены дзьверы.
Сьлівы цьвітуць.
Маўчу.

## 18. Скрыжаваньне

На скрыжаваньні
Мне заступілі дарогу трох варагаў
І закрычалі:
-- Мы заб“ем цябе, Зянон!
Тут падышоў мой сябра,
І ворагі змоўклі.
Але сябра ўбачыў, што ворагаў трое, -- сказаў:
-- Абодвух заб“юць, --
І перайшоў на іх бок.
Тым часам падышоў другі сябра.
Але ўбачыў, што іх чацьвёра, -- сказаў:
-- Ты павінен мяне зразумець, --
І стаў на бок чытырох.
У гэты час напаткаў мяне трэці сябра.
Але ўбачыў, што іх пяцёра, --
Бяз слоў перабег да пяцёх.
Тады я сказаў сябрам:
-- Глядзіце: трое іх, трое вас, я – чацьверты.
Хіба дазволіце ворагам забіць свайго радака?
-- Не дазволім! -- дружна сказалі сябры.
І ворагі адступілі.
Так мы і разышліся з таго скрыжаваньня:
Ворагі сабе, мы – сабе.

Толькі з тае пары
Я стаў вельмі асьцярожны з сябрамі
Да першага скрыжаваньня.

*1983 г.*

## 19. Багаславеньне рыцару

Багаславёны клён
Пад ліпеньскім дажджом
Непранікнёны --
Прытулак жабраку.
Багаславёны рыцар на шляху.
І конь яго
Залатагрывы, агнявы,
Багаславёны.
І Вільня
Тройчы будзь мая багаславёна.
Скачы, ваяр!
Гані за здрадай!
Імчы, ваяр, пад сьпеў Пагоні!
І прынясі свабоду.

*24.08.1988*.

## 20. Каляды майго дзяцінства

Хіліцца сонца за вішневы сад.
Гурбы іскрацца ў ружовым сьвятле.
Ужо кладуцца праменьні на сьнег.
Ужо цямнее пад дрэвамі цень
І бярэцца мароз – аж трашчыць у слупах.
Конь у стайні захроп – поўны цэбар з аўсом.
І дыхнула такім чалавечым жытлом.
Грубка цёплая смольна гудзіць.
Галасы пад вакном.
Дарагімі гасьцямі напоўнены дом.

*1983 г*

## 21 Зімовая пар*а*

Беларуская зіма –
Гэта калі вечарам
Павольна ў цішыні
Падае сьнег
На хаты,
зямлю
і дрэвы.

*1995 г.*

## 22. Начны сад

Летняй ноччу чую:
Гулка ўпаў на зямлю яблык.
Адчыненае вакно.

*1995 г.*

## 23. Дэманстрацыя

О, Радзіма! У сэрцы мне гэта ня сьцерці:
Юнака, што ўсклікнуў “Жыве Беларусь!”,
Зьбівалі да напаўсьмерці.

*(З цыклу “Дэманстрацыя”) 2003 г.*

## 24. * * *

У моры шэрасьці і чужыны
Успамажэньне дае
Толькі Айчына,
Сьветлы вобраз яе ў душы
І найвялікшы Бог.

*(З цыклу “Чужына”) 2002 г.*

## 25. Рай

У сьведамасьці жывуць
Бацькаўшчына і Рай.
Рай – гэта пачатак жыцьця над Гаўёй,
І квітнеючы луг,
І аблокі,
Белыя, нібы з-пад млына шум,
І цьвітучая бульба –
Бяскрайні абсяг --
І перазвон касьцельны.

*(З цыклу "Перазвон") 2003 г.*

## 26. Белы рыцар

Ідучы па дарозе,
я спаткаў вершніка
У белым плашчы
на чырвоным кані.
-- О, рыцар, каго сьцеражэш?
-- А ветру шукаю ў полі, мой брат.
-- Няма ўжо ветру, -- кажу, --
І ня будзе,
І поле бітвы лесам парасло.
І я спыніўся,
каб паказаць яму дрэвы.
-- Не спыняйся. Ідзі, --
Сказаў мне белы рыцар. –
Тваё поле – шлях.
Як спынішся –
Вырасьце лес на шляху.
Сказаў – і прышпорыў каня.

*2001 г.*

## 27. Вобраз роднай зямлі

Паўдзённая цішыня.
Хвойны водар смалы і жытнёвых палеткаў.
Чую: колы рыпяць на далёкай дарозе.
Чую гукі ўгары.
То на хорах касьцельных іграюць арганы
І пяецца малітва сьвятая.
І бяздонная сінь – незямны акіян,
І аблокі плывуць над палямі.

## 28. Ісьціна

У спрэчках
Ніколі не нараджаецца
Ісьціна.
Толькі нянавісьць.
Ісьціна
          прыходзіць
                    у цішыні.

## 29 На Грунвальд

У бел-чарвона-белым квеце
Куды імкнуцца пад сьцягамі
Харугвы конныя, баяры
І рыцары стальныя?
-- На Грунвальд, пане.
Устаўшы рана, йшчэ да дня,
Куды сьпяшае латнік пешы,
Што йдзе праз замак Гарадзенскі?
-- На Грунвальд, пане.
Із-пад Воршы і Смаленска,
Із-пад Віцебска і Менска,
Із-пад Вільні і Мсьціслава,
З Магілёва, Ізяслава,

Нібы хмара, нібы лава,
Мкне Пагоня – наша слава,
Мкне, як бура над палямі.
А куды?
-- На Грунвальд, з намі.
Гэй, на Грунвальд,
ўсе, хто вольны!
Гэй, на бітву,
ўсе, хто сьмелы!
Гэй, наперад,
хто жывы!
Можа сёньня – мо ніколі,
Можа, ўсё, а мо нічога.
Альбо пан,
альбо прапаў!
«Па беларускім бітым шляху
Йдуць беларускія сыны...»
На Грунвальд, хлопцы,
Гэй, на Грунвальд!
Зламаем сілу Сатаны!

Лунай, лунай над намі песьня.
О, Багародзіца, пануй!
Наш кожны першы ўваскрэсьне,
О Беларусь, о Беларусь!..

*(25.08.1988)*

## 30. Букет

Чэрвеньскі вечар
цямнее ў шыбах.
Ты пайшла.
Застаўся твой букет
І ў цішыні
Твая нябачная
прысутнасьць.

## 32. На пэроне

Пачуўся гудок за ліпамі.
Дзяўчынка малая
ляльку калыша --
Сьпі, мой сыночак, сьпі.

## 33. Полацак

Зьвіняць званы
Сьвятой Сафіі,
І піша Слова
ў кельлі сьветлай
Малады манах.

## 34. Ізноў вясна

З кожным годам -- вясна.
З кожным годам -- губляем свабоду.

*1995 г.*

## 35. Лес за сіняй смугой

Калі глядзець з палёў паўднёвых,
На фоне дальніх сініх гор,
парослых лесам,
Ўзвышаецца Суботніцкі касьцёл.
Зірну на дзівосныя горы
ў хвойнай смузе,
І хачу растварыцца
ў тых далягладах.
Цесна сэрцу ў грудзях
і дыханьню ў целе.
За вежамі,
за хвалямі асмужаных лясоў,

За неспазнанымі гарамі,
за белымі воблакамі,
За блакітнымі хмарамі
цёпламу ветру ўсьлед
Мне мроіцца Вільня.
Чую: званы зьвіняць над жытамі.
Бачу шпілі
ў мройве зялёных хвояў.
Плыў бы туды бясконца
да чырвоных муроў.
Ах, каб крыльцы мне мецць!
Мілы шпак, аднясі ёй маю любоў.

*1984 г.*

## 36. Віленшчына

На віленскіх горах,
На ўзвышшах Ашмянскіх,
Між палёў, у дарозе
Не сьпяшаю.
Павольна іду.

Прысяду на камень-валун,
Адпачну.
Аблокі ўсплываюць
З-за сіняга лёну,
Маўчу.

Нідзе не спаткаў я такое красы.
На дзесяць кілёмэтраў – жыта з гары
Гайдаецца морам,
Шумяць каласы.

О, мілы прастор дарагой Стараны!
Ня хочацца верыць,
Што некалі ўмру
І болей Цябе ня ўбачу.
Прысяду на камень-валун,
Адпачну.
Бязгучна ад радасьці плачу.

*(1981)*

## 37. Там, далёка

Там, за гарызонтам, за гарамі,
За сінімі лясамі –
што там?
Мой горад,
што сьніцца ў снах.

## 38. У Вільні

У акне касьцёл Ганны
І зсівелы сьвятар:
Успамінае пра Беларусь.

## 39. Цьвітуць яблыні

Распусьцілася яблыняў бель.
Увайшла ў берагі Вяльля.
Пялёсткі плывуць.

## 40 Раніцай ля катэдры

Прагучэў у тумане
гадзіньнік на вежы.
Адзінокі мой крок.
Чайка крычыць
над Вяльлёй на сьвітаньні.

## 41. Віленка

Зьверху відаць:
Як лёгка дзяўчына бяжыць
Па зялёнай траве,
Дзе булькоча рака.
Выгінаецца плынь паміж гор.

## 42. Ранак на Антокалі

Холадна ўсход ружавее. Мароз.
Абсыпаецца шэрань з галін.
Патухаюць лятарні.
Уздымаецца сонца – малінавы шар,
Асьвятляе сьнягі на дамах.
Лунае туман над Вяльлёй.
Вось каменныя львы сьцерагуць уваход.
Прыпыняюся.
Міма іду,
Азіраюся ўсьлед
                    на вакно мастака --
Сергіевіча
            ўжо няма.

*(1986)*

## 43. Каўкі

О, Мілая Вільня!
Зь дзяцінства знаёмыя гукі.
Каўкі начуюць на вежах касьцёлаў.
Расталі ў цемры сьпічастыя дахі.
Блішчыць мокры брук. Цішыня.
Стук абцасікаў сьпешны.
Ёкат птушак ня сьціх
                    у мурах Бернардынцаў.
Пэўна, штосьці гавораць праз сон.

## 44. Тамлюся душой

На Ашмянскім гасьцінцы ўвосень
У памяці маёй бярозы шумяць.
Як цягне мяне туды,
Дзе па сінім бруку
Пад шоргат калёс
Набліжаецца Вільня.

## 45 . Віленскі брук

Бачу мокры брук праз вакно,
Адпрасаваны падковамі коней
І ступенямі продкаў.
Бачу чырвоныя камяні.
Стагоддзі хлістаў па іх дождж
І бег струмень
Ад Вострай Брамы аж да Катэдры.
Стагоддзямі цёк струмень людзкі...
Прайду і я гэты шлях, як рытуал,
Памятаючы пра ўсё.

## 46 Узіраюся ў далячынь

Ізноў шчыміць маё сэрца па Вільні,
Па бедным маім юнацтве.
Сінія горы на гарызонце.

*(1986)*

## 47. Факстрот

Загучэў стары факстрот.
Ах, Вільня! Вільня прад вайной!..
Кудысьці «чорна Ядзя»
па вуліцы прайшла.
Ці жыве яна яшчэ?
Дзе-небудзь.

*(1987)*

## 48. Фатаграфуе Ян Булгак

На патэфоне
Гучыць вясёлы пасадобль.
Што там у садзе Бернардынскім?
Цырк шапіто? Мадам Фурэ?
Ах, вішні расцьвілі?
О, Божа, колькі жабракоў
На плошчы прад катэдрай...
Якія бледныя ў іх твары.
Як рукі з голаду дрыжаць...
Мая Зямля,
Хоць крываточаць Твае раны,
Ты йшчэ багата Боскім Духам,
Бо моляцца ж, бо моляцца
За ўсіх.

*(20.09.1987)*

## 49. Яблыні

Пілуюць яблыні старыя,
Кідаюць гольле ў агонь.
Дзе мае леты маладыя --
Прайшлі, сплылі, зьляцелі ветрам.
Мільгнуў у хмарах белы конь.

Каму цікавы лёс мой бедны,
Карціны памяці, гады?
Ральля пад цьветам палавее
І сьняцца замкі-гарады.

Вось па Завальнай воз грукоча.
У маім мястэчку Вільні звон.
Пілуюць яблыні старыя,
Кідаюць гольле ў агонь.

*(1986)*

## 50. Над палямі

Шчымліва так
гучыць самотны звон.
Віленскія горы,
віленскія вежы,
віленскі брук...
Далёка-далёка за небаспадам.

## 51. * * *

Імкнуся ў край бацькоўскі.
Кепска мне.
У гэтым горадзе халодным
Так томіцца душа.
Кірую на поўнач свае ўяўленьні.
І калі толькі падумаю пра цябе,
О, Вільня,
Пра горы Твае, парослыя соснамі,
Плынь Вяльлі ў праменьнях заходняга сонца --
Лягчэе на сэрцы,
Быццам падыхаў паветрам Тваім.

*1984 г.*

## 52. Запаветнае

О, Вільня, як жывіш Ты маё сэрца!
У час спатканьня іду на пляц.
Вось мур,
Дзе апошні позірк Каліноўскага.
Доўга гляджу,
Каб панесьці з сабой у душы.

*(1986)*

## 53. Прадвызначэньне

Пра што б ні падумаў –
Усё пачынаецца з Бога
І ў Богу зачыняецца.
Калі б прышоў Бог
І паклікаў Цябе:
Йдзі за мной!
Ты б пайшоў?..
Толькі той, хто паверыў–
Пойдзе.
І таму
Не пакліча Гасподзь наўпрост,
Калі дадзена ўсім
Дарога.

*(2003)*

## 54. Вандроўка вясной

Няма больш прыемнасьці,
Як пасьля павонькі – вялікай  вады
(Як Гаўя ў берагі ўзялася) –
Уздоўж ракі пахадзіць.
Ціна на вольхах,
Намыты пясок,
Новы вір,

Перамены.
Шчупакі ў сенажаці плюскаюць.
Як падсохне крыху,
Прыду і злаўлю.

*(2003)*

## 55. На Браслаўшчыне

Ціхі дзень. І раптам як зашуміць вецер
У соснах на востраве
між азёр.
Жывы ты, ці што, вятрыска?

*(2002)*

## 56 Летні дзень над Гаўёй

У цішыні і шапаценьні вольхаў
Ветрык данёс
праз бульбянае поле з касьцёлу
Далёкіх арганаў гуд
і малітоўны сьпеў.

*(2002)*

## 57. Глухая пара

Бульбу скапалі.
Над апусьцелым полем
Месячка сьвеціць.

*(2002)*

## 58. Перад сьвітаньнем

Выйду на двор.
Яшчэ цёмна.
Залівіста певень пяе ў хляве.

*(1995)*

## 59. Зімовы дом

Старая веранда
скрыпіць.
Праз шчыліны
сыпецца
сьнежны пыл.
Завіруха.

*(2002)*

## 60 Мінулы час

Вечар. Зіма.
Мой дом дарагі,
прыадчынена печ.
Вершы чытаем пры бляску агню.
Пакрываецца попелам жар.

## 61. Далёкая, любімая

*Калі ляціш над акіянам у самалёце і назіраеш з гары мяжу дня і ночы, адчуваеш раптам відочна і востра (да мурашак па скуры), што жывеш на шары, у пустоце. Што ён цесны і бязвыходны. І непрытульна робіцца душы, якая не разумее, навошта і чаму гэты шар існуе ў бязьмежным прасторы вечнасьці. І тады я сабе напісаў:*

Божа, зьлітуйся.
Мне жудасна над пустатой.
Апусьці мяне на цёплую маю зямлю,
Дзе расьце трава
І белыя воблакі ў Беларусі.
Мне нічога ў жыцьці ня трэба.

*(2002)*

## 62. У Шадзюнах гляджу ў бок Суботнікаў

Тут наш верас і мох,
І сцукрованы сьнег на дарозе.
Тут вярхоўе Гаўі.
Беларусь.
Сакавік.
Уздоўж лесу іду ў трывозе.
Не было тут спрадвеку мяжы.
Там, за лесам, касьцёл наш прыгожы,
Там, за лесам, мой дом,
За нябачнай жалезнай заслонай.
Не было тут ніколі мяжы.
Чую звон з-за хваёвых вяршынь.
Далятае мэлёдыя ветру.
Я ўжо тут, і ня тут.
Засталося два крокі.
Можа, вечна туды не вярнуся.
Можа, ноччу ў цішы – шэры воўк –
Перайду праз “мяжу”
І да родных дзьвярэй прытулюся.

*(2003)*

63. * * *

Дзень Задушны.
Паволі, нямогла
мама мая ідзе
На магілу бабулі.

## 64. Далёкая-далёкая

Каля возера вазок.
Гнеды конік скача.
Дзяцюк ножкай не калыша –
Заснуў, небарача.

Гэй, ты конік, мой рахманы!
Гэй, сабачка жвавы!
Давядзі мяне дахаты.
Мурагі, дубравы...

Мая хата пад гарою.
Ганачак сасновы.
Мая жонка маладая.
Прыветныя словы.

*(2002)*

## 65. Гэтыя

Калі я казаў пра нішчэньне Айчыны,
Вочы іх былі спакойныя,
Нібы гладзь вады.

*(2004)*

## 67. Дождж на эвеню “Z”

Крапае дожджык
                    па чужым вакне.
Пагаварыць бы з даждджом.
Але й ён чужы.

*(2001 г. Нью-Ёрк)*

## 68. Хварэю на чужыне

Пакуль гатуюць лякарства,
Складаю верш,
Як калісьці сьпявалі
Мы песьні свае.
Толькі штось не пяецца мне ўжо
Без Беларусі.
Кашляю, як сухотнік.

*(2001 г. Варшава)*

## 69. Дрэнныя весткі

Ты маркотна спытала мяне:
-- Як забяруць Бацькаўшчыну,
У нас з табой
Ці застанецца каханьне?
-- Ня плач, каханая, ня плач.
Усё застанецца.
Толькі ня будзе шчацься.
Бо няма шчасьця
Без Беларусі.

*(2003)*

## 70. Зімовая нядзеля

Марозік на ліпах асеў.
Белыя галіны.
Зь вежы касьцельнай
плыве перазвон.
Імша.
А Бацькаўшчына далёка.

*(2003 г. З цыклу “Перазвон”)*

## 71. Чакаю аўтобуса

Калі я драмаў на прыстанку,
Хтось даткнуўся маёй рукі.
Сабачка бяздомны
ў вочы глядзіць.

*(2000)*

## 72. * * *

Жабрак папрасіў на Брадвэі.
«Нават ў яго -- вольная бацькаўшчына», --
Падумаў я.

*(1999)*

## 73. * * *

Бягуць гады.
Так хутка.
І, як раней,
пакутуе
наш народ.

*(2003)*

## 74. За акіянам

Чайкі белыя крычаць,
Нібы плачуць хвалі,
Адлятаюць ветры ў далі.
Толькі ветры ў чужыне
Зусім ня радуюць мяне.

Як белая чайка,
Ня буду я плакаць.
Зброю сваю – нарыхтую.
Над салёнымі водамі памалюся.
Веру, Божа, у нябёсах анёлы Твае
Над змагарнай маёй Беларусяй.

*(2003)*

## 75. Гучаньне анёльскага голасу

(*песьнявы варыянт*)

У цішы над Зямлёй, у эфіры начным
Голас чысты гучыць – так пяе херувім:
-- Авэ, Марыя, грацыя плена...

На Радзіме маёй ён, як сонца прамень,
Белы цьвет веснавы і крыніцы струмень:
-- Авэ, Марыя, грацыя плена...

Беражы, сьцеражы нас у чорнай бядзе.
Я далёка, далёка ў лясной старане:
-- Авэ, Марыя, грацыя плена...

Там, дзе сосны шумяць, там, дзе хмары бягуць,
Хай гучыць над Зямлёй, над краінай маёй:
-- Авэ, Марыя, грацыя плена...
-- Авэ, Марыя, грацыя плена...

*Coda:*

– Авэ, Марыя...

## 76. Дарога сьмерці

*Праз Курапаты, дзе ляжыць расстраляны народ, нашчадкі адных праклалі шырокую дарогу нашчадкам другіх. Тады я   напісаў:*

Не забывайцеся,
Вы едзеце па магілах,
Дарогай,
    якую зрабіў
        забойца.

*(2002)*

## 77. Нарбут

*Калісьці Нарбут, лекар браслаўскі, стоячы на гары Замковай і пазіраючы ў далячынь, гэтак мовіў: "А прыгажэйшага месца ў Эўропе ня бачыў". Пра яго ведаючы, я напісаў:*

Усё, што зрабіў,
Стварыў, захаваў, аднавіў –
Затопчуць, зьнявечаць, забудуць.
Спаганяць імя.
І толькі Бог адзін
        будзе ведаць пра ўсё.

*(2002)*

## 78. Анёл каменны

Зімой на Росах* пуста, сьнежна.
Анёл з адбітай галавой
І абламанымі крыламі
У марознай золкай цішыні,
Калі прамень на вежы меркне,
Усё мкнецца, мкнецца ўзьляцець
Над сьветавідам душ памерлых.

Далёкі шлях перада мной.
Распрасьціраецца дарога,
І пералескі, і палі.
Мая зямля -- мая трывога.
І перасьледуе мяне,
Як сон халодны, як сувой,
Як вобраз краю зрабаваны,
Анёл з адбітай галавой
І абламанымі крыламі.

Ужо ападае цьвет вясеньні,
Ужо жаўціцца клёна ліст.
Над акіянам і зямлёй
Вандроўнік я ў самалёце.
Над ноччу чорнай мімалётнай,
Над скамянелым кантынентам,
Чужым, як месячны ляндшафт,
Над пустазельлем і званамі,
Як сьпеў няродны прада мной.
Як край забраны, пахаваны,
Анёл з адбітай галавой
І абламанымі крыламі
Ляціць, ляціць, таварыш мой.

-------------------------------

* Старажытныя каталіцкія могілкі ў Вільні

## 79. З табой

Зацьвітуць бела-белыя вішні,
І мы пойдзем з табой
                    паміж дрэў
Вечарам у цішыні,
                    любімая.

*(1997)*

## 80. Жонцы пішу

Ты церпіш, мілая,
Найлепшая мая,
Бяз скаргаў і сумненьняў,
І працу нізкую,
І ўсе пакуты,
І беднае жыцьцё,
І ўсё чужое,
Бо ўсё -- для Беларусі.

*(2002 г., Варшава)*

## 81. Ліхалецьце

Калі ў бездухоўнасьці
Зьявіцца духоўны лідар –
Яго заб'юць.
Бо ня праўды жадаюць,
а пахвальбы.
І дармовага хлеба.

*(2003)*

## 82. Крот

Як паказаць табе хараство,
Калі ты ня бачыш,
І не разумееш,
Навошта яно патрэбнае?

*(2001)*

83. ## Капаю Курапацкі дол

Праз бярозавы шум
У магіле расстрэльнай
Пачуў я, як птушкі пяюць.
Зірнуў у гару:
Як добра жывым.

*(2002)*

84 ## Усьмешка Джаконды

Людзі, што пакланяліся зорам,
Былі бязьлітаснымі.
Зьледзянела
ўсьміхаецца
Сфінкс.

*(2002)*

85. * * *

Вакол жахлівы чорны Космас,
А на Зямлі – такое хараство.

86. * * *

Вестка прышла:
Мой сябра ўжо не жыве.
Як я сьпяшаю.

*(2002)*

## 87. Творцы

Нават малы творца
Можа стаць геніям для сьвету
У вялікага народа.
І нават геній сьвету
Будзе нікім
 у народа слабога.
Бо вялікімі не нараджаюцца.
Вялікімі робяцца,
Калі народ хоча вялікіх.

## 88 Нараджэньне Хрыстова

Сёньня Раства.
Цішыня.
І адзінокі сьнег.

*(2001)*

## 89. * * *

Запалілася зорка ў цемнаце.
Не азірайся, бо страціш.

## 91. Голас

Абляцела пад ветрам
 асеньняе лісьце:
“Сьпяшайся!” –
 шапнула ў прастор.
Азірнуўся: бяроза шуміць.

*(2002)*

92. * * *

Найлепей, калі чыста, сьветла і прыгожа.
Гэтага трэба трымацца,
Каб палепшыць душу.

93. * * *

Жыцьцё можна аддаць за другі свая.
Але ні завошта няможна аддаць душу,
Акрамя любові.

*(2002)*

94. * * *

Таямніцу – трымай.
Не ўтрымаеш – спустошыш душу.

*(2000)*

95. * * *

Боскі Дух разьліты ў прыродзе
І сьведчыцца праз красу.

*(2004)*

96. * * *

І ўспомніў я словы сябра:
Калі хто жонцы здраджвае,
Той і Радзіме здрадзіць.

*(2003)*

97. * * *

Калі хочаш пазнаць чалавека,
Паглядзі на ягоных дзяцей
І шмат зразумееш.

*(2004)*

98. * * *

Літасьць – праява велічнага духа.
Яна дае шанс вечнасьці.
Але ня можа быць міласэрдзя
Без справядлівасьці.
Інакш яно прывяло б
Да апраўданьня зла.

*(2004)*

99. * * *

Сын Божы прышоў да тых,
Хто верыў і чакаў.
Які сэнс быў прыходзіць да іншых?

*(2004)*

100. * * *

Дрэннаму ўсюды дрэнна.
І нават пазнаньне дабра
Можа стаць горам
Для кепскага чалавека.

*(2004)*

101. * * *

Воблік рэгрэсу – страта
Боскага ў чалавеку.

*(2004)*

102. * * *

Зайздрасьць і здрада – гэта тое,
Што ўсьцяж перасьледуе лепшых.

*(2004)*

103. * * *

Ці здаралася вам
Выдзірацца зь вячэрняга бору,
Калі месяц мігціць між ствалоў?

*(2004)*

104. * * *

Ці бачылі вы,
Як студзеньскай ноччу
Поўня над Вільняй сьвеціць?

*(2004)*

105. Фотаапарат

І ты па сьвеце блукаеш,
Нязьменны сябра,
У кішэні маёй.

*(2002)*

106. * * *

Ноччу, калі адчыніў балкон,
Месячнае сьвятло
Дарожкай убегла ў пакой.

107. * * *

Дарога праз выган
                    спадае за небаспад.
За небаспадам
                    сабачка брэша,
Нібы зьвініць асеньні бом.

## 108. Падае сьнег

Разьвіднела.
Ціха кружацца сьняжынкі.
І ўспомніў я вішняў цьвіценьне.

*1995 г.*

## 109. Восень залатая

Узьляцела сарока
На жоўты клён.
І пасыпаўся лістапад.

*2004 г.*

## 110. Хлеб

Хлебчык упаў мне з рукі.
Пакаціўся пад стол.
-- Падымі й пацалуй, --
Сказала бабуля, --
Дар Божы.

*2002 г.*

## 111. Імгненьне з жыцьця ліса

У сьвятле фар
З цемнаты ў цемнату,
як страла,
Прамільгнуў праз дарогу ліс.
Так і стаіць уваччу,
Калі ўспомню далёкі час.

*1995 г.*

## 112. Восень над палямі

Колькі разоў давялося мне чуць,
Як восеньскім змрокам
У небе
Крычыць адзінокая гусь.
Вось і цяпер
голас яе
вецер даносіць.

*1995 г.*

## 113. Рака Дэлавэр

Па старой праіндзейскай рацэ,
Між лясістых гор,
На фарбованых лодках
Плывуць з рогатам бледнатварыя,
Кока-колу п’юць.

*2003 г., Канэктыкут*

## 114. Раніцай за сталом

– Надта люблю глядзець
на касьцёл, --
Радасна сказала маці.
Серабрыстая вежа ў вакне.

*1987 г.*

## 115. На прыёме

Якія халодныя вочы
ў гэтага бюракрата.
І рука, нібы рыба.
А распытвае пра здароўе.

*1988 г.*

## 116. Сквер

Вунь бачыш на лаўцы
Уедліва “Праўду” чытае дзядок.
Замухрышка.
За Сталінам колькі зглуміў людзей.

*1987 г.*

## 117. Прывід Рэйтана

*(Прыпавесьць)*

Аднойчы восеньню, калі было сыра і нудна,
І бясконца ішоў дождж,
Усе сказалі:
-- Пойдзем тапіцца, -- і накіраваліся да рэчкі.
-- Спынецеся! – сказаў Адзін
і стаў у дзьвярах.
-- Хіба ня міла вам жыць?
-- Надакучыла, -- адказалі ўсе, --
Пойдзем разам.
-- Жыцьцё – гэта дар, а ня наша ўласнасьць, --
запярэчыў Адзін,
--Не баіцеся Бога.
-- Не вучы нас, як жыць! – закрычалі яму, --
Прэч з дарогі!
Але Адзін лёг упоперак на парозе.
-- Ідзеце праз маё сэрца, якое баліць за вас.
Гэта моцна раззлавала ўсіх.
-- Ён плюе супраць ветру! –
закрычалі вакол.
-- Ён супроцьставіў сябе ўсім.
-- Гэта вораг усіх, -- сказаў нехта.
-- Хто адданы народу, той ідзе зь ім у воду!
-- Пакараць яго! – залямантавалі наўкола.
-- Сьмерць таму, хто стаіць на нашым шляху!
-- Утапіць! – прысудзілі суддзі.
Аднаго схапілі і кінулі ў вір.
І не ўсплыло яго цела...
А была восень.
Бясконца ішоў дождж.
І было гэтак сыра і нудна,
Што ўсе разышліся,
упэўненыя,
Што цяпер іх жыцьцё
палепшыцца.

*1984 г.*

## 118. Прыцемак халоднай восені

Запаліліся зоркі ў небе,
І холад павеяў зь цёмных палёў.
За сьпіною агні і цяпло пад страхой.
Тварам да ветру стаю.
Пах бульбянішча, мерзлай зямлі адчуваю.
Пошум крыльляў вышэй верхавін –
Шэрыя гусі лятуць.

*1984 г.*

## 119. Рабства

-- Чаму ў вас такія распусныя дзеці растуць?
-- Мы вучым свабодзе, --
Прамовіў мне з гонарам раб.

*1988 г.*

## 120. Цёплая ноч

*Калісьці даўно, у апошнюю ноч жніўня, я прышоў на бераг Дрывят. Вецер з гаркавым дымам прынёс з палёў подых восені, і такая журба наплыла на мяне. Шкода, што канчаецца лета, што так хутка праносіцца час... Можа там, на другім канцы Сьвету, за мільярдамі зор, такі ж, як і я, на беразе возера. Ці спаткаемся мы калі з табой? І тады напісаў я сабе:*

Нябачныя хвалі шумяць,
І конікі ў палыне.
А як там?
Над магілай
                забітага сябра.

*1987 г.*

## 121. Хіба ня бачыце?

Вы ўсё пра каханьне
Складаеце радкі.
Жадаеце, каб вас кахалі.
А хіба ня бачыце,
Як высахла без любові
Наша Зямля?

*1987 г.*

## 122. Гама

Дзесьці ў Маскве
Рэпеціруе гамы
Вова-вундэркінд.
А ў Хвойніках з дрэў
Абсыпаецца гама-дождж
На гора маёй зямлі.

*1987 г.*

## 123. Крык

Пачуўся крык у зьсечаным лесе.
Я азірнуўся –
Прада мной доўгая вуліца:
Пад сонцам сьпякотным
Плойма народу плыве.
“Стойце! – пачуўся ізноў гучны крык, --
Куды йдзяцё?!”
Але ніхто не спыніўся.
Толькі вецер гарачы павеяў зь бялёсых нябёс,
І ледзь чутна зямля затрымцела.

*1983 г.*

## 124. Іду пехатой

Не сьпяшаю дамоў.
Яшчэ сонца высока –
пагодныя дні.
Разглядаю наўкол
далягляды Твае і лугі.
Доўга стаю пад сасной.
Уецца стужка Гаўі,
Палошча на дне вадзяную траву.
Усё відаць з вышыні.
Пыл курыць на дарозе.
Далёка за купамі дрэў
Чую трактара стрэкат.
Прывык да яго,
Нібы даўняга сябра сустрэў.
Гуляюць вятры на гары –
Песьні коніка ў шэлесьце траў.
Іду цераз поле, каменьні, імхі,
баразной.
Ах, як шкода,
што ўсё праміне –
Сьмерць разлучыцць з Табой.

*1985 г.*

## 125. Сьвятло любові

Як добра сузіраць
Ціхую Тваю красу;
Твой погляд,
поўны пяшчоты і ласкі.
Быццам срэбныя промні
ў майскую ноч
Плывуць з-за празрыстых хмар.

*1985 г.*

## 126. Абавязак і воля

*Ёсьць дачыненьні асабістыя, за якія сам адказнасьць нясеш і волю гартуеш. Але ёсьць – грамадзкія, дзе абставіны вышэйшыя за волю тваю і адказнасьць твая застаецца. Гэтак думаючы, я напісаў:*

Ці можаш падставіць шчаку левую,
Калі ў правую б'юць?
Дзеля Бога – магу,
Каб учынкам сябе не панізіць.
Але калі забіваюць народ –
Без ваганьня страляцьму.

*2003 г.*

## 127. Акупацыя

-- Вы хто? – спытаў ахоўнік.
-- Ісус Хрыстос.
-- А пачэму разгаварываеце па-беларускі?

*2002 г.*

## 128. * * *

Цэлую ноч,
пакуль вершы пішу,
Травеньскі салавей
несьціхана пяе.

*2004 г.*

## 129. Час

Вершы пішу.
Пройдзе вельмі шмат часу,
Калі іх прачытаюць.

*2006 г.*

## 130 Боскасьць

Хараство Зямлі,
З чым цябе параўнаць?
А ні з чым,
Бо нават самае багатае ўяўленьне
Не сягае вышэй
за зямную красу.

*(2007)*

## 131. Страказа

У плыні Гаўі
зьвіваецца пасма травы.
Фіялетавая страказа
Калышацца разам з травой.

*(2012)*

## 132. Вакно

Бывае стане вельмі кепска,
І думкі апануюць
Непатрэбныя, цяжкія,
І патрабуюць адказаць
Там, дзе няма адказу.
Гляну ў вакно –
Акіян відаць
Без канца і краю,
Вялікі, як сьвет.
Губляюцца хвалі ў бязьмежжы.

*(2013)*

## 133. Вечарэе

*(З цыклу "Жоўтыя воблакі")*

Канчаецца дзень,
І лета канчаецца.
І жоўтыя воблакі над вадой.
Як шкода,
Але што зробіш.

*(2012)*

## 134. Рама

Хмара сплыла
І выглянуў Месяц.
Адбітак ад рамы вакна
На стале
Павольна спаўзае на край.

*(2012)*

## 135. Месяц у вакне

Месяц, Месячка,
Ты наш прыгожы,
Сто гадоў цябе ня бачыў
У сваім вакне.
Ізноў ты сьвеціш мне
Праз белыя фіранкі.
І ўспамінаю я Айчыны дом,
Калі над вішнямі даўно-даўно
Блішчэла ўсім твая краса.
Недзе там, за Гаўёй,
За сінім лесам і небаспадам,
Далёка-далёка,
Дзе нас не было,
Дзе толькі звон касьцельны
Зьвініць
над вячэрнім
полем.

*(2012)*

## 136. Крылы

-- Будзьце, як птушкі нябесныя, --
Сказаў Гасподзь.
І падумаў я:
Вольны той, хто лятае.
І Анёл – вольны.

*(2012)*

## 137. Ікар

Хлопчык пайшоў да сонца.
Ішоў-ішоў,
А яно ўсё далёка.
І тады думае:
Эх, быў бы я птушкай!

*(2013)*

## 138. Лёт

Калі я ляжаў і глядзеў у неба,
Прасьвісталі ў паветры імкліва
Дзікія гусі.

*2013 г.*

## 139. Ноч пасьля дажджу

Гром прагрымеў уначы.
Калі я выйшаў на двор,
Пахла мокрай травой,
І далёка гудзеў матор.

*(2012)*

## 140. Аб мудрасьці чытаньня

Той, хто піша, -- тварэц.
Але хто чытае – таксама творца,
Пражывае ў сабе
Ілюзорны сьвет,
Які робіцца часткай
Яго душы.

*(2008)*

## 141. Станцыя

Седзячы на пэроне, бачу,
Як імчыцца цягнік цераз ноч.
Людзі ў вокнах, сьвятло.
Прамільгнуў – і вярнулася цемра ізноў.
Конікі шалясьцяць.

*(2013)*

## 142. Даўно было

Ноччу шэлест мяне разбудзіў.
Мама шые пры лямпе
Мой дзіравы заношаны плашч.

*(2013)*

## 143. Ноччу прачнуўся

За сьцяной панэльнага дома
Ноччу глыбокай чую
Адзінокай жанчыны плач.

*(2013)*

## 144. Прагматызм

Яны сталі поўзаць,
Думаючы, што потым
Будуць лятаць.

*2000 г.*

## 145. Сонца

Таму, хто чакае,
Што загляне сонца
У яго ваконца,
Сонца не загляне ніколі.
Сонца сьвеціць таму,
Хто да яго імкнецца.

*(2013)*

## 146. * * *

Чалавек не адзінокі,
Бо ёсьць Бог.

*(2011)*

## 147. * * *

Сям’я – гэта
Маленькая царква.

## 148. Жыцьцё

Сэнс жыцьця ёсьць у самым жыцьці,
Бо жыць добра.
І таму -- чалавеку хацелася б жыць вечна.
У імкненьні да вечнасьці ёсьць найвышэйшы сэнс існаваньня.
Але гэты сэнс недасягальны бяз Бога,
Бо толькі Бог – вечны.

## 149. Соль чужыны

На чужыне,
Калі ляціць жыцьцё,
Галоўнае не азірацца:
Толькі наперад.
І коней гнаць.
Гнаць, пакуль бягуць,
Каб не сканаць у снах –
У днях, што прамінулі.

*(2012)*

## 150 Сьпеў

Чым далей жыву,
Тым больш мне гучыць
Маладосьці сьпеў.
І міжволі
Сьпяшаюся я.

*(2006)*

## 151. Мудрасьць

Пачытаўшы кітайцаў,
Зразумеў мудрасьць:
Добра, калі жонка добрая.
Але калі жонка дрэнная,
То тады дрэнна.

## 152. Нараджэньне і сьмерць

Сьмерць і нараджэньне – галоўныя падзеі жыцьця.
Нарадзіўшыся, мы ня ведаем, што нас чакае.
Што будзе пасьля сьмерці – мы нічога ня ведаем.

## 153. Хваля

Хваля ёсьць форма
І формула хараства

## 154. Вера і сьмерць

Ні любоў, ні каханьне,
Ні нянавісьць, ні злосьць –
Нішто не пераможа сьмерці,
Толькі Вера:
Калі йдуць на сьмерць,
І ўпэўненыя, што не памруць.

*(2012)*

## 155. Жыцьцё чалавека

Жыцьцё чалавека
Адрозьніваецца ад усялякага іншага жыцьця ў прыродзе тым,
Што чалавек
Здольны ахвяравацца ім
Дзеля існаваньня іншага чалавека
І нават дзеля ідэі чалавечага існаваньня людзей.

## 156. Жанчына

Хораша чуць жаночыя галасы.
Бо гэта цуд -- жаночае стварэньне!
Кожны чалавек нарадзіўся з жанчыны.
Шануйма яе, бо толькі яна
Можа быць маці нашага роду.

*(2012)*

## 157. Бясстрашнасьць

Ухваляючы бясстрашша і сьмеласьць,
Ня кажуць пра Бога.
Але тут, як са свабодай,
Якой ў прыродзе няма.
Чалавек бяз страху,
Які нічога не баіцца, --
Дрэнны чалавек.

*(2013)*

## 158. Парадак

Сьвет пабудаваны ў парадку,
Які вечны.
Успрыняцьце парадку сьвету ёсьць свабода.

## 159. Сутнасьць

Зло правіць гэтым сьветам
Але сутнасьць змаганьня
Не за гэты сьвет, а за той.

*(2013)*

## 160. Краса

Дрэва пад сьнегам
І дрэва ў квецені
Аднолькава прыгожае.
Можа таму,
Што белы ўбор.
Бо калі б сьнег быў чорны,
Жыць было б невыносна.
Але найцяжэй –
Калі б чорнае неба.
Бог стварыў Зямлю
Па законах красы,
І таму жыць хораша.

*(2013)*

## 161. * * *

Млын стаіць. Вада шуміць.
І Месяц над вадой.
І галасы ў памяці маёй.
І летня ноч над галавой –
Айчына.

(*2004*)

## 162. * * *

Ужо сонца заходзіць,
І слабее сэрца.
А свабоды няма.

(*2002*)

## 163. Некалі даўно

У вачах стаяць людзі,
Што весела танцавалі.
І той час быў, як вечнасьць.
З гараччу заўважаю,
Як непрыкметна замкнуўся
Іх круг жыцьця.

(*1985*)

## 164 Сьветлы касьцёл

Сьвятая імша
і сонечны дзень.
Прасьвятлі нашы душы, Госпадзе!
І гімн Беларускі гучы!
У сьветлым касьцёле, мілая,
Ты побач
укленчы са мной.

## 165 Сасна

На фоне нябёсаў сасна адзінока стаіць.
Ледзь чутна ў хвоі вецер шуміць.
Вечнасьць.

## 166 Ружа

Адцьвіла ружа на сьвітаньні.
І апалі пялёсткі ў цішыні.
Раса.

## 167 Орша

Пад’язджаем да Оршы.
Чуеце веліч
У ветры на полі?

(*1987*)

## 168. Ула

Што гэта? Ула?
Звычайная рэчка,
А якая слава.

(*1987*)

## 169. Раніца

Пасьля начнога дажджу
Вада ў лілеі
Чыстая, нібы раса.

## 170. * * *

Карабель у тумане,
Як жывая істота,
Цямнее ў начы.

(*2012*)

## 171. Карабель

Ноччу ў тумане,
Як жывы,
Карабель плыве,
Нібы нейкі сусьвет.
Акіян без канца.
Цішыня.
І халодныя хвалі.

(*2013*)

## 172. Мсьціслаў

Здаецца, што ня дождж --
Сьцякае кроў з узгоркаў
Уніз па баразьне
Праз тры стагоддзі
І пакідае сьлед.

*(1987)*

## 173. Старыя сябры

Ізноў я ўбачыў
Вашыя аблічча.
Узіраюся моўчкі.
Як даўней -- галасы.
Шукаю сваю маладосьць.

*(2009)*

## 174. У ханскім палацы заходжу ў пакой фантанаў

(*З цыклу* "*Крым*")

Толькі жорсткі,
чульлівы ўсход
Мог прыдумаць
сьлязы фантан.
Задуменна гляджу
на крывы ятаган,
Ручка зашмальцавана.

*(1992 г., Бахчысарай)*

## 175. Ялта

Сьпякота. Адчыненыя дзьверы.
Бадзяюцца расейцы
па магазінах,
Усім незадаволеныя.

*(1992)*

## 176. Маўзалей Джаныке Ханум, 1437 год

Разрабаваны расейцамі.
За плату
аглядаюць нашчадкі
Брыдоту продкаў.

*(1992 г., Бахчысарай)*

## 177. На магіле Багдановіча

Пад дрэвамі,
дзе цень халодных
надмагільляў,
Каток ласкавы падышоў
І замурлыкаў ля нагі.

*(1992 г., Ялта)*

## 178. Крым

З высокай гары –
мора за небакрай.
Тыя, што застануцца жыць,
Убачаць тое самае.

179. ## Гурзуф

У татарскай саклі
П'яны Іван.
Ніводнага татарына.

*(З цыклу «Шлях у Вялікае Княства»)*

180. ## Ці былі вы?

Ці прачыналіся вы калі-небудзь на золку
У вясновым гаі,
Дзе голасна птушкі пяюць?
О, гэта рай!
А ў траўні ці былі вы калі-небудзь
Над возерам і лазой,
Дзе салоўка пяе
І захмараны месяц сьвеціць?
О, гэта дзіва!
Ці былі вы ў вішневай Беларусі,
Дзе ў нябёсах Бог жыве
І ночы салаўіныя,
І шастакрылы Серафім,
Як над палямі звон,
Асьцерагае нас...

*2002 г.*

181. Княства

-- Рушайма, йдзем, -- прамовіў князь. --
Сьпяшайма дадому,
у нашае Княства,
Прыўкраснае, нібы бор,
І сьветлае, нібы лета,
Калі над Нараччу
белы ляціць бацян.
Там чакае нас Бог.
Там гарцуюць крылатыя коні...
Йдзем
Па гарах і далах,
Нібы лава,
З Крыжам і косамі,
І пратубэранцам Сонца.
Йдзем
Цугам, нібы Птушыны Шлях,
Калі зьнікае Месяц.
Абкружаем Зямлю –
Йдзем
Бясконца
У наша Княства.

*2004 г.*

182. Хмары

*Па дарозе з Ломжы да Аўгустова ўсе краявіды выклікаюць давер, быццам даўно тут быў і ўсё знаёма, і нават таямніцы, што месьцяцца ў душы. А навокал вёскі: Папова ды Дабрыялава, Муравы ды Горкі, Буды, Гута, Прытулава ды Залесьсе, Кучыны ды Міхны, Дзягілі, Гнатава, Шчучын, Грады ды Бочкі...*

*Усё, што засталося ад беларусаў, якія жылі тут яшчэ сто гадоў таму – гэта назовы вёсак ды рэчка Нарва, што коціцца ў Буг, ды зямля… знаёмыя краявіды, да болю знаёмыя далі. Калі гляджу на іх, як зьмяняюцца плывуць прад вачыма, расьцякаюцца фарбамі ды палямі, дрэвамі на пагорках, сьнягамі й травамі ды зялёнай руньню, жаўцізной і жытамі ды сьвежай ральлёй пад мокрым шэрым цёплым небам – усё гэта запаланяе мой зрокавы сьвет і зьмешваецца, як мара, як палітра, як вадаспад, і напаўняецца музыкай слых.*

*Гэтак гучыць зямля... Пэўна, яна ўзгадала мяне, пазнала... Я твой, зямля, твой. Я чую цябе...*

*Хацеў пагаварыць зь людзьмі, што тутака засталіся, з былымі беларусамі. Такія падобныя ў іх абліччы. Але лепей не гаварыць...*

*Гэтак думаў я па дарозе з Ломжы да Аўгустава, едучы ў Вільню. І тады я сабе напісаў:*

183. Калі страцілі Княства,
Цемры чарод увайшлі на зямлю.
Тупат іх капытоў,
Нібы гул ад грымотных хмар.
Як лавіна вады, клубам пыл!
Як пад ветрам пажар
Па верхавінах дрэў,
Па галовах над намі шуміць
Без канца, несьціхана
Па нашым Княстве.
Між стаптаных палёў,
Сярод дымных кастрышч
Мы чакаем сваёй пары.
Яна прыйдзе, як звон.
Яна будзе, як вецер з высокіх нябёс.
Яна стане, як полымя душ,
І як сэрца агонь,
Калі вернецца наша Княства.

*2004 г.*

## 184. Вечны вобраз

За жыцьцё я шмат паезьдзіў
па Беларусі.
І цяпер яна ўся ў маім сэрцы.
Стаіць у вачах і ў душы са мной.
Плыву і плыву да яе
па бясконцым моры.
Але калі падумаю
пра шчасьце Тваё,
О, Бацькаўшчына,
То лепш бы я тут загінуў,
Чым убачыў Тваю няволю.

*2002 г., Варшава*

*(З цыклу «Дарога»)*

185. * * *

Твая ахвярнасьць --
                        дар Божы,
Апора мая. Маці.
Які ж пакутлівы твой лёс!

*(2001)*

186.. * * *

Там, дзе жыве памяць,
Там ёсьць будучыня.

*2004 г.*

187 Імя

Уражвае велізарнасьць хлусьні.
Як сьцёк атрутны,
Як мёртвая рака,
Яна падзяліла маё імя папалам:
Для сьвету –
                        і для сяброў.
Але нават калі б хлусьня
Перамагла апошняга сябра,
Застаецца Бог,
Які непераможны.

*2002 г.*

*( З цыклу «Вечныя каштоўнасьці»)*

188. Бог

Як добра, што ёсьць Бог.
І ў найсамотнейшай трывозе
ты не адзін –
Жыве Надзея.

* * *

Як добра ў Бога верыць.
Тады і здрада не заб’е,
І найагіднейшы паклёп
душы ня зломіць,
Бо справядлівасьць ёсьць.

* * *

Як добра, што ёсьць Бог,
Бо вечнасьць.

*2003 г. (З цыклу “Бог”)*

*( З цыклу «Месяц»)*

189. * * *

Ці назіралі вы ўраньні
На сінім небе
Вясновы месяц?

190. Адцьвітаюць сады

Пад Месяцам
у ценю дрэў
Усьцілаюць пялёсткі траву.
Майская ноч.

*2004 г.*

*( З цыклу «Радыяцыя»)*

## 191. Паўдзённы вецер

Бэзавы пах нагадаў мне,
Што май на двары прамінае.
У суседняй кватэры
хлопчык хворы
Адзін
За зачыненым пыльным вакном.

*1987 г.*

## 192. Пыл

Як павольна спадае
пыл у паветры,
Нібы жоўты туман,
Сьвеціцца над людзьмі.

*1987 г.*

*(З цыклу «Айчына»)*

## 193. Ізноў вясна

З кожным годам – вясна.
З кожным годам – губляем свабоду.

*1995*

## 194.. Прамоўцы

Гэй вы, плакальшчыкі
Аб лёсе ўсёй плянэты!
Ўжо Беларусь зьнікае.

*(1987)*

## 195. Тыя

Тыя, што прымушаюць народ
Слухаць хлусьню, --
Вучаць яго
хлусіць.

*(1987)*

## 196. Найдаражэйшая Айчына

*Атрымаў вестку зь мясьцін юнацтва, што ўсё марнуецца ды пусьцее, што вымерлі землякі ці зьехалі прэч. Што ў мястэчку чужыя людзі, норавы і гаворка. Што разбураюцца ходнікі, брук, масты і дамы. Што зсечаны сад... Інічога няма сьвятога. І тады я напісаў:*

Як быццам замянілі кроў.
Як быццам сон кашмарны:
Бацькаўшчына – якой няма.

Найлюбейшая Радзіма,
Мы вернем Цябе!
Мы адродзім Цябе зноў.
Мы адбудуем Цябе навечна!

*2002 г.*

# Кнігі, выдадзеныя Зянонам Пазьняком за мяжой

1. Зянон Пазьняк. Камунізм як форма рускага імпэрыялізму. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2000 г.

2. Зянон Пазьняк. Новае стагоддзе. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2002 г.

3. Зянон Пазьняк. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2003 г

4. Зянон. Вялікае Княства. -- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2005 г.

5. Зянон. Вялікае Княства (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.

6. Зянон. Беларуска-Расейская вайна. Belarus is easten outpost. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2005 г.

7. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі. -- Нью- Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2005 г.

8. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.

9. Сяргей Навумчык. Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988 – 1995). -- Варшава, 2006 г.

10. Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.

11. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, 2007 г. (Містыфікацыя. Выдадзена ў Беларусі, 1/16 д.а., 60 с.).

12. Зянон. Дарога. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.

13. Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 1, артыкулы і матэр'ялы (1990 —III.1996). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.

14. Парсіваль (2-е выданьне). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2009 г.

15. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2009 г. (1/32 д.а., 192 с.)

16. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 2, артыкулы і матэр'ялы (IV.1996—2002). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.

17. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Працяг. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 3, артыкулы і матэр'ялы (2003--2010). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.

18. Зянон Пазьняк. Сяргей Навумчык – Дэпутаты Незалежнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.

19. Зянон Пазьняк. Дэклярацыя – першы крок да Незалежнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.

20. Зянон Пазьняк. Сэсія Незалежнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2011 г.

21. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2011 г.

22. Зянон Пазьняк, Валеры Буйвал. Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.

23. Зянон Пазьняк. Добрая фатаграфія. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.

24. Галіна Пазьняк. Менскі гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі (1990-1991). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.

25. Зянон. Тэрра Дэй. -- "Беларускія Ведамасьці", -- Варшава, Нью Ёрк, Вільня, 2014 г.

26. Zenon. OJCZYZNA WIECZNA. -- "Беларускія Ведамасьці", -- Warszawa, 2014.

27.Аўген Калубовіч. Мова ў гісторыі Беларускага пісьменства. (Факсімільнае выданьне. Прадмова да факсіміле – Зянон Пазьняк). -- Варшава «Беларускія Ведамасьці», 2015 г.

28.Зянон. Палын-палын…-- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.

29. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.,

30. Zenon. TERRA DEI. – New York, Warszawa, – «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), "Беларускія Ведамасьці", 2017 г.

31. Зянон. Глёрыя Патрыя. – Вільня, 2000 г.

32. Даніэль Дэфо. Рабінзон Круза. (Факсімільнае выданьне. Прадмова і пасьляслоўе – Зянон Пазьняк). – Нью Ёрк – Варшава, – БВТА, «Беларускія Ведамасьці», – 2017 г.

33. Зянон Пазьняк. Vox Angelica. Кніга перакладаў. – Нью Ёрк- Варшава, – «Беларускія Ведамасьці», – 2018 г.

# ЗЬМЕСТ

ISBN 978-83-948192-0-0

(Пазьняк Зянон Станіслававіч)

Зянон

# VOX ANGELICA

Кніга перакладаў

Кніга створана на дабраахвотных пачатках (без аплаты працы)
Выданьне і друк коштам аўтара.
Некамэрцыйнае выданьне.

**Зянон. VOX ANGELICA. Кніга перакладаў.**
Выданьне: "Беларускія Ведамасьці", Варшава – Нью-Ёрк, 2018. -- 216 с.
Папера афсэт. Letter, фармат 6x9 (½ letter); 108 друк. арк. Наклад – 300 асоб.
VOX ANGELICA – гэта анталогія перакладаў вершаў Зянона зь беларускай мовы на 32 мовы сьвету. Кніга разьлічана на аматараў паэзіі, на шырэйшае знаёмства з творчасьцю аўтара.
ISBN 978-83-948192-0-0

Мастацкі макет, вокладка, афармленьне,
укладаньне, падрыхтоўка да друку
і кампутарны склад па макету – *Зянон Пазьняк.*
Кампутарны набор – *Галіна Палачаніна*
Друк: – LULU.
Наклад: 300 асобнікаў.
Аддрукавана: ў лютым 2018 г. у ЗША.
Папера афсэтная.
Фармат аркуша – Letter;
Фармат друку – 6x9 (½ letter)
Ул. выдавецкіх друк. арк.: 108
Ум. друк. арк. 108

ISBN 978-83-948192-0-0

